Сёння яшчэ можна падпісацца на “Народную Волю” на чэрвень.
Працягваецца падпіска і на другую палову 2015 года. Будзем і надалей сябраваць!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

№ 40 (3985)

26 мая 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Шаноўныя чытачы!**
*Вы трымаеце ў руках чарговы нумар “Народнай Волі”.*
*Просьба: уважліва азнаёмцеся з яго матэрыяламі. І, калі ласка, адгукніцеся — вашы меркаванні, заўвагі, прапановы нам неабходны для выпрацоўкі далейшых планаў, унясення пэўных карэктыў пры фарміраванні будучых нумароў газеты. Падказвайце цікавыя тэмы, адрасы, герояў публікацый.Тэлефануйце: +375-328-68-71.*
*Дасылайце свае лісты па электроннай пошце: **nvonlineinfo@gmail.com**.*
**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

## У Польши – новый президент



Им стал 43-летний юрист **Анджей ДУДА.** Он одержал победу во втором туре президентских выборов в Польше, которые состоялись в воскресенье. Действующий глава Бронислав Коморовский признал свое поражение. «Друзья мои, не получилось. Так решили избиратели. Демократия – это не только признание результатов, но и уважение результатов выборов. Поздравляю Анджея Дуду!» – приводят СМИ его слова. Действующий глава государства не только поздравил Дуду с полученным результатом, но и пожелал ему удачного президентства.

*(Продолжение темы на 5-й стр.)*

ПАЛІТЫКА

## Ёсць ужо ініцыятыўная група па падрыхтоўцы ўстаноўчага з’езда грамадскага руху “За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі”

Узначаліў ініцыятыўную групу вядомы паэт, кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Уладзімір Някляеў. Каментуючы журналістам мэты стварэння новага руху, палітык заўважыў: *«Усе гады, што існуе Рэспубліка Беларусь, адной з асноўных тэм з’яўляецца незалежнасць і дзяржаўнасць. Увесь гэты час гаварылася пра небяспеку для існавання незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь, і сёння мы бачым, што небяспекі стала не менш, а больш».*

Някляеў прывёў прыклад Украіны, дзяржаўнасць якой змаглі абараніць не армія і спецслужбы, а *«нацыянальна арыентаваная сіла – людзі, якія мелі пачуццё годнасці і адказнасці за лёс краіны».* Менавіта такая сіла і такія людзі і здольны выратаваць незалежнасць і дзяржаўнасць Беларусі, упэўнены Някляеў.

ЗАЯВА

## арганізацыйнага камітэта па стварэнні руху за дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі

29 ліпеня 2000 года на Усебеларускім з’ездзе ў Мінску быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі.

З’езд **заявіў**, што беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь.

З’езд **засведчыў** Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву.

З’езд **абвясціў** незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад’емнай каштоўнасцю беларускага народа.

З’езд **прызнаў** не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі.

З’езд **канстатаваў**, што незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай.

З’езд **заклікаў** усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны.

Падзяляючы палажэнні Усебеларускага з’езда 2000 года, якія сёння набылі яшчэ большую актуальнасць, канстатуем, што незалежнасць Айчыны па-ранейшаму знаходзіцца пад пагрозай. Адзінай сілай, здольнай супрацьстаяць пагрозе, можа быць толькі беларускі народ. Дзеля аб’яднання народа ў адзіную сілу лічым неабходным стварэнне **руху за дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі.**

Заклікаем далучацца да гэтай ініцыятывы ўсе дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, прадстаўнікоў улады і грамадзянскай супольнасці – усіх грамадзян, у чыіх грудзях б’ецца сэрца беларускага патрыёта.

*24 мая 2015 г.*

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

## Багаж Макея

Што прывязе з Рыгі Уладзімір Макей? Такое пытанне “Народная Воля” вынесла ў загаловак, калі ў мінулым нумары газеты пісалі пра адкрыццё саміту “Усходняга партнёрства” ў Рызе. Дарэчы, афіцыйны Мінск да апошняга не паведамляў арганізатарам, хто канкрэтна будзе ўзначальваць беларускую дэлегацыю. І ў Рызе вельмі чакалі асабіста Аляксандра Лукашэнку. Прэзідэнт Латвіі Андрыс Берзіньш, гаспадар саміту, яшчэ ў сакавіку заявіў, што сустрэнецца з беларускім кіраўніком, калі той вырашыць прыехаць. Так бы мовіць, намякаў: “Не бойся, усе пацiснуць табе руку”. Але ў рэшце рэшт Аляксандр Лукашэнка на сустрэчу выправіў замест сябе міністра замежных спраў.

Такім чынам, галоўнае, што прывёз з Рыгі Уладзімір Макей, – можна сказаць, расчараванне нашых еўрапейскіх партнёраў.

Чаму ў Еўропе чакалі Аляксандра Лукашэнку? Чаму еўрапейскія лідары ўжо гатовы сядзець з ім за адным сталом і паціскаць яму руку, хаця ў Беларусі нічога істотна не змянілася?

Адказ просты – геапалітыка.

Па-першае, на Захадзе ацанілі тое, што беларускі кіраўнік заняў больш-менш нейтральную пазіцыю ў расійска-ўкраінскім канфлікце і не выступіў адзіным фронтам з Пуціным “супраць бандэраўцаў”.

Па-другое, у інтарэсах Еўропы, каб у Беларусі заставаўся хоць і аўтарытарны, але стабільны рэжым і не было ніякіх узрушэнняў.

Трэцяе. Аляксандра Лукашэнку не хочуць заганяць у кут, бо тады для яго застанецца адзінае выйсце – расійскі накірунак.

Ёсць у пераліку прычын і пятае, і дзясятае. Але галоўнае: Еўропа не зачыняе, а расчыняе перад Беларуссю свае дзверы, усяляк дапамагае нам выйсці з той самаізаляцыі, у якую зайшла краіна. І тым не менш Аляксандр Лукашэнка не можа зрабіць рашучы крок на Захад, не можа пайсці насуперак “пажаданням” Масквы. На словах прызнае неабходнасць шматвектарнай знешняй палітыкі, аднак на практыцы не заўсёды гэта пацвярджаецца.

Аднак у дадзеным выпадку размова – пра рыжскі багаж Макея. Яшчэ ў ім кароткая, але вельмі сур’ёзная размова са старшынёй Еўрапейскага савета Дональдам Тускам. З-за яе нават крыху затрымаліся пратакольныя здымкі ўдзельнікаў саміту. Размаўлялі Туск і Макей практычна на вуха адзін аднаму, а ўсе прэзідэнты і прэм’ер-міністры, удзельнікі саміту, разумеючы важнасць моманту, чакалі. Змест журналістам не раскрылі. Але гэта быў той рэдкі выпадак, калі палітыкі перад прэсай не ўсміхаліся, не жартавалі, не дэманстравалі аптымізм, а былі вельмі сканцэнтраваныя і сур’ёзныя.

Пра што гаварылі? Пра будучыню, скажа пасля Макей. І калі меркаваць па выразе твараў падчас гэтай размовы, будучыня вымалёўваецца не зусім вясёлае. Аднак хоць у контурах, але вымалёўваецца. Так, нягледзячы на тое, што Аляксандр Лукашэнка не апраўдаў чаканняў еўрааптымістаў, у будучым перамовы паміж Беларуссю і Еўрасаюзам працягнуцца. Напрыклад, у Рызе свой новы візіт у Мінск анансаваў еўракамісар па палітыцы суседства і пашырэнні ЕС Ёханес Хан. У красавіку гэтага года ён ужо наведваў беларускую сталіцу, сустракаўся і з Аляксандрам Лукашэнкам, і з Уладзімірам Макеем, і з прадстаўнікамі апазіцыйных структур. А гэта значыць, што, як і напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў, Еўропа спрабуе засцерагчы беларускае кіраўніцтва ад брутальных сцэнарыяў, якія могуць паставіць крыж на любых планах па паляпшэнні адносін.

Гэта добры складнік багажу міністра Макея. Але ёсць і дрэнны.

Пасля некаторых мерапрыемстваў, як вядома, бывае непрыемны асадак. І яго, хочаш не хочаш, але павязеш з сабой. Пасля Рыжскага саміту такі асадак пакінула крымскае пытанне, з-за якога Беларусь і Арменія падпісалі выніковае пагадненне з агаворкамі. Калі нельга было заняць пазіцыю “і нашым, і вашым”, калі спатрэбілася вызначыцца – тое, што адбылося з Крымам, анексія альбо не, дык адразу, як кажуць, вочы забегалі. Можа б, і хацелася міністру Макею быць цвёрдым ды прынцыповым, але...

Па крайняй меры, як паведаміў прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка, Беларусь (як, дарэчы, і Арменія) не была катэгарычна супраць пункта, якім прызнаецца, што адбылася анексія Крыма Расіяй. “Яны спрабавалі звязаць згадку гэтай пазіцыі з пытаннямі сваёй зацікаўленасці”, – сказаў Парашэнка. Іншымі словамі, з-за боязі наступстваў па прынцыповым пытанні Макею давялося ўсяляк выкручвацца... Прыніжальная і непрыемная пазіцыя, дрэнны багаж.

Акрамя гэтага, Уладзімір Макей прывёз з Рыгі дакументы – пагадненне аб раннім папярэджанні тэхнагенных сітуацый, новы варыянт дагавора аб малым памежным руху з Латвіяй, абяцанне пра падпісанне праз месяц дагавора аб палягчэнні для беларусаў візавага рэжыму з Еўропай (калі нічога не зменіцца, то за візу мы будзем плаціць не 60 еўра, а напалову менш).

Нарэшце, вельмі верагодна, што з Рыгі кіраўнік беларускага МЗС прывёз тое, што і ўсе госці гэтай краіны, – галоўны латвійскі сувенір, рыжскі бальзам. Ён у іх цяпер выпускаецца не толькі класічны, у вядомых нам керамічных карычневых бутэлечках, але і з ромам, і з парэчкамі – грэх не пачаставацца... Але ці гэтага мы чакалі?

ПАРТКУХНЯ

## Кандыдат у кандыдаты




Сяргей Калякін на будучых выбарах будзе балатавацца на прэзідэнцкую пасаду. Такое рашэнне за зачыненымі дзвярыма прыняў з’езд партыі левых “Справядлівы свет” – журналістам прысутнічаць пры абмеркаванні гэтага пытання не дазволілі.

Галасаванне па пытанні, ці трэба Сяргею Калякіну ўдзельнічаць у выбарах, было пайменным. Са 160 дэлегатаў, якія прынялі ў ім удзел, 105 чалавек выказаліся “за”. Такім чынам, мы бачым, што рашэнне Калякіна стаць яшчэ адным кандыдатам апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах яго аднапартыйцы падтрымалі зусім не аднадушна. Нават жонка Сяргея Калякіна – Таццяна – прагаласавала супраць яго ўдзелу ў выбарах.

І тым не менш рашэнне прынята. Навошта партыя “Справядлівы свет” (нагадаем, што раней партыя насіла назву "камуністычная") вылучае свайго кандыдата?

Як вынікае з рэзалюцыі з’езда, не для перамогі. Як вынікае з дакумента, на будучых выбарах партыя мае намер:

– дамагацца максімальнай падтрымкі выбаршчыкамі рэкамендаванага партыяй кандыдата ў прэзідэнты;

– прасоўваць прапанаваную партыяй сумесна з іншымі левымі сіламі пазітыўную альтэрнатыву палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі;

– павышаць узровень вядомасці партыі сярод насельніцтва;

– ажыццяўляць кантроль за ходам арганізацыі і правядзення выбараў у межах кампаніі «За справядлівыя выбары».

Такім чынам, пра магчымасць перамогі – ні слова. Трэба разумець, выбары партыя Сяргея Калякіна вырашыла выкарыстаць для таго, каб нагадаць пра сваё існаванне. Палітолагі гэта называюць проста – “мець на мэце вузкапартыйныя інтарэсы”. На жаль, такое ў беларускай апазіцыі адбываецца не першы раз.

ЗАКУЛІССЕ

На закрытым пасяджэнні аднапартыйцы напрамую запыталіся ў Сяргея Калякіна, ці не баіцца ён балатавацца на прэзідэнцкую пасаду, бо пасля выбараў 2010 года амаль усе незалежныя кандыдаты хоць на нейкі час апынуліся за кратамі, а некаторыя, як Мікола Статкевіч, застаюцца ў турме і сёння? Калякін адказаў, што не баіцца. Маўляў, у нашай краіне не абавязкова балатавацца ў прэзідэнты, каб змяніць канапу на нары.

У той жа час адной з першых публічных заяў патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты была заява аб тым, што заклікаць народ выйсці на плошчу ён не будзе.

**Алег СНОЎ.**

КАШАЛЁК

## Ці адчулі?

***Сярэдняя зарплата па краіне ў красавіку вырасла ў адносінах да сакавіка на 0,8% і склала 6 мільёнаў 536 тысяч 100 рублёў. За месяц беларусы сталі багацей у сярэднім на 52,4 тысячы рублёў, паведамляе Белстат.***

Што тычыцца розных сектараў эканомікі і бюджэтнай сферы, то ў прамысловасці ў красавіку сярэдняя зарплата склала **6839,8** тысячы,

у будаўніцтве – **7523,4** тысячы,

на транспарце і ў сувязі – **7518,3** тысячы,

у сельскай і лясной гаспадарцы – **4902,7** тысячы,

у адукацыі – **4828,2** тысячы, у тым ліку настаўнікаў – **5827,1** тысячы, прафесарска-выкладчыцкага складу – **7798,8** тысячы рублёў.

Урачы ў красавікуараблялі ў сярэднім **8983,9** тысячы рублёў, медсёстры – **5501,4** тысячы рублёў.

Лідары рэйтынгу сфер дзейнасці, у якіх зарабляюць больш за ўсё, па-ранейшаму спецыялісты, праца якіх звязана з вылічальнай тэхнікай. Аднак іх сярэдні даход ужо другі месяц працягвае падаць: на 255.000 рублёў у красавіку і ажно на 7,7 мільёна рублёў у сакавіку.

ДЫПКУР’ЕР

## Інданезія адчыніць сваю амбасаду ў Мінску

Беларускае дыппрадстаўніцтва ў гэтай краіне запрацавала чатыры гады таму, і цяпер Беларусь чакае кроку ў адказ.

Беларусь разлічвае на адкрыццё амбасады Інданезіі ў Мінску. Такую заяву зрабіў кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы са спікерам Савета рэгіянальных прадстаўнікоў Народнай кансультатыўнай асамблеі Інданезіі Ірманам Гусманам.

Дыпламатычныя стасункі паміж дзвюма краінамі ўсталяваны ў 1993 годзе. Беларусь і Інданезія падтрымліваюць эканамічныя сувязі – іх тавараабарот за мінулы год склаў каля 215 мільёнаў долараў.

## Без візы ў Ізраіль паедзем сёлета?

Такое спадзяванне выказаў падчас анлайн-канферэнцыі начальнік галоўнага консульскага ўпраўлення МЗС Беларусі **Ігар Фісенка.** Ён нагадаў, што 19 мая прыступіў да працы новы ўрад Ізраіля, які, паводле паведамленняў з ізраільскага МЗС, у бліжэйшы час *«зоймецца гэтым пытаннем, правядзе адпаведныя працэдуры».*

*«Пасля таго як мы атрымаем ад іх паведамленне аб выкананні працэдур, павінна прайсці 90 дзён, і пагадненне ўступіць у сілу. Мы спадзяёмся, што гэта адбудзецца ў бягучым годзе»,* – сказаў Ігар Фісенка.

Як вядома, яшчэ 19 верасня 2014 года Беларусь і Ізраіль падпісалі пагадненне аб адмене візавага рэжыму. З беларускага боку дакумент падпісаў міністр замежных спраў Уладзімір Макей, а з ізраільскага – міністр абсорбцыі Ізраіля Софа Ландвер. Здавалася, што ўжо на Каляды мы зможам наведваць Ізраіль без візы. Але тэрмін спачатку адклалі на сакавік, а зараз размова ідзе пра больш аддаленыя тэрміны.

ВЕДАЙ НАШЫХ!



## *Васіль КІРЫЕНКА:* “Гадоў на пяць яшчэ хопіць”



*Вядомы беларускі велагоншчык каманды Sky Васіль Кірыенка выйграў чарговы этап прэстыжнай сусветнай велагонкі “Джыра д’Італія”.*

Для Васіля гэта трэцяя перамога на этапах “Джыра”. Раней ён узнімаўся на першае месца п’едэстала гонару на асобных этапах у 2008-м і 2011 гадах.

Дарэчы, у чэрвені Васілю Кірыенку спаўняецца 34 гады, аднак, як бачым, узрост для прафесіянала – не перашкода.

*“Ёсць думкі наконт завяршэння кар’еры, але гадоў на пяць мяне яшчэ хопіць,* – прызнаецца ён “Народнай Волі”. *– У маім узросце велагоншчыкаў называюць “экспертамі”. Гэта значыцца, што ты – вопытны спартсмен, які на нешта яшчэ здольны. Але на падыходзе слова “ветэран”. Зрэшты, пакуль мяне больш хвалююць старты...”*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НАДВОР’Е

## Залевы і навальніцы

*На гэтым тыдні ў Беларусі чакаецца няўстойлівае надвор’е, паведаміў начальнік службы Белгідрамета Дзмітрый Рабаў.*

Сёння днём на боль-шай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, месцамі моцныя ліўні. Тэмпература паветра плюс 24–29°С, па паўночным захадзе плюс 21–23°С.

У сераду на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы і моцныя дажджы. Пры навальніцах узмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Тэмпература паветра ноччу плюс 9–15°С, па ўсходзе да плюс 17°С, днём ад плюс 11°С па захадзе да плюс 28°С па ўсходзе краіны.

*«У чацвер атмасферны фронт будзе павольна адыходзіць на тэрыторыю Расіі, вецер паверне на паўночны захад, і з Балтыкі пачнуць распаўсюджвацца больш свежыя паветраныя масы»,* – паведаміў Рабаў. Ноччу на большай частцы тэрыторыі, днём па паўночна-ўсходняй палове краіны кароткачасовыя дажджы, ноччу месцамі моцныя дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Ноччу пры навальніцах узмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра ноччу ад плюс 5°С па захадзе да плюс 15°С па ўсходзе, днём плюс 14–19°С.

МАРШРУТЫ

## Кто последний за границу?

*В конце прошлой недели белорусы стали активно жаловаться на огромные очереди на литовской и польской границах. Одни критиковали работу литовских служб. Другие говорили, что и с белорусской стороны особого движения нет. Те, кто отправился в соседние страны на автомобилях (а в минувшие выходные в крупных литовских торговых центрах была грандиозная распродажа, и многие белорусы отправились в Вильнюс за обновками), вынуждены были 7–8 часов провести в пробках...*

*«Народная Воля» попросила прокомментировать приграничный коллапс заместителя п***редседателя Государственного таможенного комитета Республики Беларусь *Сергея Борисюка*.**

– Когда после работы в конце недели все приезжают на границу, то действительно создается километровая очередь, – *говорит Сергей Валерьевич*. – Традиционно при выезде из Беларуси пятница не самый простой день. В принципе, и на польской границе тоже наблюдается скопление транспортных средств. Есть нормы пропуска, которые рассчитываются, исходя из технологических возможностей пункта пропуска. У таможенной и пограничной служб есть возможность усиления смены. Но нельзя же до бесконечности увеличивать пропускную способность! Людей много, поэтому и очереди. Кстати, по крайней мере на протяжении последних месяцев таких очередей не наблюдалось.

**Марина КОКТЫШ.**

